Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

№ 29 10-16 лістапада 1995 года ЦАНА 700 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

*Едзе прэзідэнт! На ўсім працягу трасы з Мінска да Нарачы, куды меў намер прыехаць у мінулую суботу А. Лукашэнка, начальства ўсіх узроўняў рыхтавалася. Хіба што пацёмкінскіх вёсак не будавалі. Апагей настаў у першай палове суботняга дня, калі на ўсім працягу граніцы на свае пасты выстраілася міліцыя.*

*Прэзідэнт праехаў. Аб яго прабыванні на Мядзельшчыне допіс нашага карэспандэнта.*

## Прэзідэнт быў на Мядзельшчыне і вывучаў дзейнасць сваёй вертыкалі

У мінулую суботу Мядзельшына сустракала Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнку. У актавай зале піянерлагера "Зубраня" адбылася гутарка Прэзідэнта з прадстаўнікамі калектываў Мядзельшчыны. Спачатку перад прысутнымі выступіў старшыня райвыканкома Іосіф Тарасёнак, які коратка ахарактарызаваў становішча спраў у прамысловасці і сельскай гаспадарцы Мядзельшыны, дзе апошнім часам намеціліся некаторыя станоўчыя тэндэнцыі. Іосіф Францавіч сказаў аб неабходнасці стварэння ўмоў для сапраўднага развіцця курорта "Нарач", надання яму адпаведнага статусу, што дазволіць мець у перспектыве не толькі грунтоўную базу для аздараўлення і адпачынку вельмі многіх людзей, але і стабільную крыніцу фінансавых паступленняў....

Затым слова ўзяў Аляксандр Лукашэнка. Ён паведаміў, што яго візіт на Мядзельшчыну прадыктаваны перш за ўсё спецыфічнасцю раёна, якая заключаецца ў наяўнасці курортнай зоны, і вывучэннем на месцах дзейнасці прэзідэнцкай вертыкалі. Напярэдадні ў раёне працавала камісія адміністрацыі Прэзідэнта. Яна правяла і сацыялагічнае даследаванне. Яго вынікі, па словах Аляксандра Рыгоравіча, не даюць падстаў для аптымізму. Што ж хвалюе людзей, якія праблемы яны лічаць самымі галоўнымі. Гэта– несвоечасовая выплата зарплаты, нізкая сацыяльная абарона насельніцтва, карупцыя чыноўнікаў.

Прысутныя даведаліся, што прыняты меры, каб у народнай гаспадарцы да Новага года поўнасцю разлічыліся з людзьмі па заработнай плаце. Патрабаванне ж з кіраўнікоў за несвоечасовую выплату зарплаты будзе самае сур'ёзнае. Што датычыцца дзяржаўнай падтрымкі і льгот, то іх атрымліваюць толькі тыя, хто ў гэтым сапраўды мае патрэбу.

Пералічыў Аляксандр Лукашэнка і адказных асоб, якія пабудавалі ці будуюць сабе асабнякі. Праўда, прозвішчаў не называў, а толькі пасады, якія займаюць розныя кіраўнікі. Мабыць, па той прычыне, што іх няма-ла.

Бадай, больш за ўсё прысутныя чакалі, што скажа Прэзідэнт наконт перспектывы нарачанскіх здраўніц, бо гэта будучае ўсёй Мядзельшчыны. Аляксандр Рыгоравіч паабяцаў усебаковую падтрымку. Але толькі ў тым выпадку, калі будзе распрацавана комплексная праграма развіцця курортнай зоны. Безумоўна, без належнай інфраструктуры не можа быць сапраўднага курорта, на які б імкнуліся трапіць не толькі жыхары Беларусі, але і заможныя людзі з блізкага і далёкага замежжа.

Па словах Аляксандра Рыгоравіча, Нарач– "залатое дно" і нягожа ад яго нічога не мець, курорт павінен даваць добрыя грошы.

Прэзідэнт закрануў у сваім выступленн і шэраг іншых актуальных праблем. У прыватнасці, ён гаварыў аб неабходнасці і мерах па падтрымцы сельскай гаспадаркі, абмежаванню росту цэн на прамысловыя тавары і прадукты харчавання, узмацненню барацьбы са злачыннасцю, удасканаленню народнай адукацыі, стварэнню спрыяльных умоў для індывідуальных забудоўшчыкаў...

Прэзідэнт адказаў на пытанні.

*Янка ВАСІЛЕЎСКІ*

## На пажары, як на вайне. Затрыманы падпальшчык

**ВАЛОЖЫН.** ***Шматлікія пажары становяцца нацыянальным бедствам. Расце колькасць іх і ў нашым раёне. Толькі за апошні тыдзень кастрычніка "чырвоны певень" пагаспадарыў удосталь на самых розных аб'ектах. І прычыны ўзнікнення пажараў таксама былі розныя.***

Напрыклад, ва ўрочышчы Белакорац згарэлі 23 тоны сена, якое належала калгасу "17 верасня", і так небагатаму на кармы для грамадскага статка. Як высветлілася, так разарыў калектыўную гаспадарку пастух Б., які сярод белага дня выпіў і лёг пад стог сена пакурыць. У выніку– заснуў. А калі прачнуўся, то ледзьве сам вырваўся з полымя.

Яшчэ больш жудасныя моманты перажылі ноччу 29 кастрычніка жыхары двух вёсак: Ляшчоўцы і Макрычаўшчына, дзе з розніцай у дваццаць хвілін шугануў агонь. Вёскі, хаця і належаць да розных сельсаветаў, знаходзяцца непадалёк адна ад адной. Значныя страты панеслі гаспадары. У Макрычаўшчыне 75-гадовы А. А. Мянцюк не далічыўся ў сваёй гаспадарцы двух хлявоў, каня, трох парасят, каля трох тон грубых кармоў і сельскагаспадарчага інвентару.

У Ляшчоўцах таксама знішчаны хлеў, 2,5 тоны брыкету, каля двух тон сена ў гаспадарцы пенсіянера Ф. І. Русовіча. На шчасце, людзі і жывёла не пацярпелі.

Па другому выпадку пажару затрыманы падпальшчык, малады жыхар райцэнтра. А паколькі пацярпеўшыя сваякі, ёсць падазрэнні, што ён вінаваты і ў першым пажары. Вядзецца следства.

*Наталля ШТЭЙНЕР*

## А на "Мерседэсе" мы ездзілі яшчэ 50 год таму

***Калі дакладней– 48. У 1947 годзе работнікі Маладзечанскай станцыі хуткай медыцынскай дапамогі атрымалі ў сваё распараджэнне грузавую аўтамашыну "Мерседэс-Бенц".***

Аб гэтым можна даведацца з кнігі загадаў, адзін з якіх канстатуе той факт, што ў сувязі з пераходам на аўтатранспарт звальняецца кучар- возчык.Першыя ж два гады свайго існавання (а створана служба "хуткай дапамогі" у Маладзечне 1 лістапада 1945 года) медыкі дабіраліся да хворых на конных павозках.

Цяпер гэта арганізацыя, якая, пасутнасці, аб'ядноўвае дзве ўстановы ў адной: медыцынскую і транспартную, налічвае 135 работнікаў, сярод якіх 21 урач, 50 фельчараў, 36 вадзіцеляў. У іх распараджэнні– 20 машын. Адначасова працуюць 9 дзяжурных брыгад, якія абслугоўваюць горад і раён. У іх складзе ёсць педыятрычная, кардыялагічная, кансультацыйная. У сярэднім за суткі яны выязджаюць на 120 выклікаў.

Знамянальна, што за ўвесь час свайго існавання "хуткая дапамога" мела толькі трох галоўных урачоў. Першым быў Міхаіл Аляксандравіч Бураў. Яго пераемнік Яўген Мікалаевіч Глябовіч да цяперашняга часу працуе галоўным урачом змены, яго працоўны стаж 45 год. І цяперашні– Багдан Баляслававіч Лянцэвіч таксама не навічок, амаль тры дзесяткі год аддаў "хуткай дапамозе".

Тры рэчы хвалююць яго напярэдадні паўвекавога юбілею "хуткай дапамогі" больш за ўсё: рост траўм, якія з'яўляюцца следствам ўзрослага п'янства сярод насельніцтва; недахоп запчастак для машын і неабгрунтаваныя, ілжывыя выклікі. З апошнімі, праўда, часткова дапамагаюць змагацца фіксатары нумара тэлефона абанента, якія не так даўно ўстаноўлены на станцыі.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА*

## Сесія рашыла – госці ўзялі "пад казырок".

**ВІЛЕЙКА.** ***Нядаўна сесія раённага Савета разгледзела пытанне аб стане правапарадку ў населеных пунктах раёна. Становішча такое, што супакоіць не можа. Рост ідзе па ўсіх паказчыках. І хоць працэнт раскрытых злачынстваў большы, чым у мінулым годзе, але і ўчынена іх больш.***

Вілейскім супярэчнікам закона шмат дапамагаюць прыезджыя гастралёры – злачынныя групы з Мінска, Маладзечна, Смаргоні. Менавіта на іх "асабовым рахунку" найбольш цяжкія злачынствы- забойствы, рабаванні, вымагальніцтва.

Расце падлеткавая злачыннасць. Тут таксама "чужыя" вызначыліся. Сярод зарэгістраваных злачынстваў пераважаюць такія, "аўтарамі" якіх з'яўляюцца прыезджыя.

*Аддзел інфармацыі.*

## Абкрадалі дзетак і хворых

**МЯДЗЕЛ.** ***Повар дзіцячага садка вёскі Старыя Габы Галіна Разанава "эканоміла" для сябе прадукты харчавання на абедах дзетак, на чым і папалася.***

Падобнай дзейнасцю без усялякага сораму займалася шэф-повар Свірскага дома- інтэрната Людміла Міхновіч. Толькі яна крала не ў дзетак, а ў хворых людзей.

Па ўсёй бачнасці, цяпер гэтыя повары ўсур'ёз шкадуюць аб тым, што крыўдзілі безабаронных, бо абедзвюх чакае крымінальная адказнасць.

*Алесь ДЗЯГІЛЬСКІ*

## Адзначылі па- рознаму. І ў рэгіёне. І за яго межамі.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Да пяцісот чалавек прыйшло на мітынг на Цэнтральную плошчу Маладзечна да помніка Леніну 7 лістапада сустрэць чарговую гадавіну рэвалюцыі кастрычніка 17- га. Мітынг праводзіла арганізацыя ПКБ.

Падзею заўважыла не толькі кіраўніцтва раёна ( не блытаць з гарадскім), але і палітычныя апаненты левых– БНФ.

Мітынг пад лозунгамі імкнення да сацыяльнай справядлівасці і роўнасці пад сцягамі, дзе пераважаў чырвоны колер, прайшоў мірна, без эксцэсаў. Калі параўноўваць з 91-м годам, то рост радоў мітынгуючых з 25 чалавек да 500– прагрэс.

**ВІЛЕЙКА.** Жадаючыя адзначыць дзень сёмага лістапада не змясціліся ў адной зале– адразу знайшлі большую– у ГДК. Той, хто прыйшоў на імпрэзу, а былі тут не толькі кіраўнікі камуністычнай арганізацыі і радавыя камуністы, а і кіраўнікі горада і раёна, засталіся задаволеныя мерапрыемствам.

Хутчэй за ўсё, гэта была настальгія па тых часах, калі нас штосьці яднала– агульная калона, агульныя лозунгі. Ноты настальгіі гучалі і ў выступленні аднаго з "галоўных камуністаў" Іосіфа Маціюна, і кіраўніка райвыканкома Івана Шнітоўскага. А на заключэнне свята быў хор ветэранаў. Што да традыцыйнага ўскладання вянкоў да помніка Леніну, то яно было. Не было мітынгу. Надвор'е не спрыяла.

**АСТРАВЕЦ.** Не спрыяла яно мітынгу і ў Астраўцы. Астраўчане амаль забыліся, як святкуюць Кастрычнік. Таму арганізатары і абзвонывалі раённыя арганізацыі і ўстановы, даючы "разнарадку". Разнарадка падзейнічала– канторскія работнікі Астравеччыны прыбылі ў залу РДК.

Трэба быць шчырым. Сярод прысутных былі і тыя, хто прыйшоў сюды без аніякага прымусу. У большасці– людзі сталага ўзросту. Поўная зала выслухала не толькі прамоўцаў, але і канцэрт самадзейных артыстаў.

**БАБРУЙСК.** Гэты горад трапіў у амаль рэгіянальную зводку толькі таму, што ён праславіўся днём 7-га лістапада на ўсю краіну. Нават замежнае тэлебачанне падавала рэпартаж аб тым, як у горадзе над Бярэзінай генерал Усхопчык наладзіў вайсковы парад. Усё б нічога. Але вайсковы парад у нейтральнай краіне (парад- паказ магчымасцяў), якім, да таго ж, кіруе генерал, з чыім імем звязваюць кроў ля тэлевізійнай вежы ў Вільнюсе– падзея, згадзіцеся, не радавая.

Дзень сёмага лістапада ў Беларусі некаторым запомніўся чырваннЮ сцягоў, час якіх, аказваецца, не прайшоў. Многія ж запомнілі яго першай зімовай завірухай.

*Аддзел інфармацыі.*

# “Былыя камсамольскія работнікі правялі свае свята ў “Лабірынце”, які самі будавалі

“Пад гучныя працяглыя апладысменты прысутныя сустрэлі...”– менавіта так пачынаўся б газетны рэпартаж гадоў дзесяць таму. Змяніўся час, а за ім газетны стыль і змест. Але людзі, якія сабраліся адзначыць сваё прафесійнае свята, здаецца, засталіся такімі ж: бадзёрымі, шматслоўнымі, жыццярадаснымі. Былыя вызваленыя работнікі Маладзечанскага гаркома камсамола святкавалі свой дзень нараджэння ў былым камсамольскім кафэ “Лабірынт”. Па- рознаму можна ставіцца да іх: ганьбіць, спачуваць. Адно бясспрэчна: усе яны добрыя арганізатары і кожны з іх не апошні ў сваёй цяперашняй рабоце кіраўнкоў СП і МП, камерцыйных банкаў, дырэктараў і іх намеснікаў самых розных устаноў і арганізацый Усе яны– людзі ў горадзе вядомыя і паважаныя, і збірацца разам стала добрай звычкай.

Аляксей Выбарнаў, дырэктар палітэхнікума:

– Я фізічна не адчуваю цяжкасць гадоў. Паплечнікам, калегам заўсёды кажу: слова “быў” ніколі не ўжываю. Ёсць цёплыя ўспаміны, калі працаваў самааддана ў камсамоле, ёсць сям’я, ёсць работа. І, безумоўна, ёсць сябры, камсамольцы 70- 90, якія ніколі не падвядуць.

Аляксандр Міронаў, дырэктар СП “Хайбел”:

– Я бачу, што агеньчык нашых сэрцаў не згас і сёння. Што б ні казалі аб камсамоле, лічу, што гэта не прафесія, а стан душы.

Валерый Хвораў, кіраўнік аддзела маркетынгу СП “Хайбел”:

– Усё ж нямала добрага мы пасля сябе пакінулі. Напрыклад, вось гэтае кафэ. Калісьці тут быў падвал з блыхамі, затоплены вадою. Камсамольцы яго ператварылі ў цудоўнае месца адпачынку. І не іх віна, што кафэ ўжо належыць прыватніку, і, каб адпачыць у ім, трэба выкласці немалыя грошы. Але гэта ўжо сучасная палітыка.

Тамара Лубінская, намеснік дырэктара палітэхнікума:

– Мужчыны, ці згодны вы, што дзейнасць жанчын у камсамоле заслугоўвае самай высокай адзнакі. Памятаеце:

“Нам нужны такие женщины в комсомоле,

Что б они могли с судьбой поспорить.”

Валянціна Кацінель, дырэктар фабрыкі “Дзіната,” і Аляксандр Ільін, дырэктар малога прадпрыемства “ІФ” пацвердзілі вышэйсказанае песняй: як добра, што ўсе мы тут сёння сабраліся. І ў іх атрымалася вельмі ўдала.

Сяргей Борбут, намеснік дырэктара фірмы "Айра" пажадаў усім дабрабыту: “Каб вы ўсе так жылі, як мы тут сядзім”. І яго аднагалосна прысутныя падтрымалі.

Алег Паддубны, намеснік кіраўніка філіяла банка “Дукат” спяваў, расказваў цікавыя здарэнні са свайго жыцця. Адным словам, мерапрыемства, прысвечанае Дню нараджэння камсамола прайшло ў цёплай, сяброўскай атмасферы. Таму сведка і я, былы камсамольскі функцыянер,

*Васіль САВІЦКІ.*

# ГРОШЫ ЗА ЎСМЕШКУ

## маналог афіцыянта

Па спецыяльнасці я інжынер. Працаваў на вытворчасці, хадзіў на работу з дня ў дзень. Нікому не былі патрэбны ні мае тэхнічныя распрацоўкі, ні іх гаспадар. Толькі дурні ды гультаі заставаліся на заводзе. Адны сябры параілі, другія запрасілі, такім чынам і трапіў я ў камерцыйнае кафэ ў якасці афіцыянта. На першы погляд, работа поўнасцю мяне задавальняла: завязваліся новыя карысныя знаёмствы, праца праходзіла не пад грукат станкоў, а пад звон бакалаў– здавалася, што кожны дзень свята.

Большая палова наведвальнікаў– пастаянныя кліенты. 80 працэнтаў з іх ад 20 да 30 гадоў. Усіх трэба накарміць, напаіць і не сапсаваць ім добры настрой. А бывае і ўзняць. Бо наш дэвіз: “Зрабі вечар запамінальным, і цябе не пакрыўдзяць”. Менавіта я ўсіх кліентаў дзялю на чатыры катэгорыі. Самая малая складаецца са студэнтаў, людзей маламаёмных, якія наведваюць піцейны дом раз у год. Трымаюцца яны спачатку скавана, скрупулёзна вывучаюць меню, прычым глядзяць адразу на цэны, а потым ужо на стравы. Але праз некаторы час расслабляюцца як след, гуляюць да апошняй тысячы. Іх нельга падманваць. Яны і рэшты не патрабуюць, і на чай дадуць шчодра.

У другую групу ўваходзяць людзі без высокага інтэлекту ад 20- 40 гадоў, якія толькі што вярнуліся з заробкаў, або атрымалі грошы падманам. У іх поўнасцю адсутнічае паняцце “даць на чай”. Яны лічаць, што калі самі падманваюць, то і ўсе людзі такія, і афіцыянт не выключэнне. Ніколі не правяраюць рахунак і мы раскручваем такіх гусакоў напалову ад агульнай сумы за вечар.

Трэцяя– бізнесмены. Не дробязь-фарца, а пачынаючы так з намесніка кіраўніка банка. У такім выпадку я кажу: сабраліся ў зале фізікі і лірыкі. Хлопцы любяць пабуяніць, разбіць посуд (некалькі талерак абавязкова), добра пасядзець. Але ўсё заканчваецца пацалункамі і вялікімі грашыма на чай.

Апошняя катэгорыя асобая– злодзеі.

16- 25 гадовыя “крутыя”, а на самой справе проста шасцёркі, падначаленыя. Такія могуць накрычаць, штурхнуць, нахаміць. Людзі самага нізкага інтэлекту. З такімі лепш не звязвацца. Любяць пусціць пыл у вочы і дзеля куражу ці заплацяць звыш нормы, ці заб’юць за капейку. Сваім жа сяброўкам могуць прама за сталом залезці ў трусікі. Быў момант, калі я аднойчы абслугоўваў столік з такімі мілягамі, а яны ў гэты момант цішком падпальвалі мне ззаду порткі.

Самая паважаная разнавіднасць злодзеяў– паханы. Гэтыя вельмі сябе паважаюць, сядзяць ціха. У іх свой кодэкс годнасці. Заказы робяць па колькасці страў невялікія, затое самыя- самыя. Без патрэбы ніколі не пакрыўдзяць. Быў момант у маёй практыцы, калі так званы пахан падавіўся косткай. І пакуль я стукаў па моцнай спіне, ахоўнікі ледзь не здзіравілі кулямі маё цела. Але за ганарар ад гэтага ўчынку я мог бы купіць машыну.

За месяц работы ў кафэ я афіцыйна атрымліваю 20 долараў. А левага набягала звыш 50 у тыдзень. Калі ёсць патрэба, можна і сутэнёрствам падрабіць. Але я гэтым не займаюся. А наогул, работа цяжкая, нервовая. Пакуль не набярэш сваю кліентуру– з глузду з’едзеш. Вось і п’еш горкую, каб стрэс зняць. Афіцыянты добра разумеюць: вялікія грошы залежаць ад іх саміх. Каму падміргнеш, з кім пажартуеш, у адсутнасць сяброўак спытаеш– з кім сёння? Кагосьці спытаеш аб стане здароўя, справах. Адным словам, як выклічаш прыхільнасць да сябе– так і заробіш.

*З афіцыянтам гутарыў*
*Васіль САВІЦКІ*

# “Благаславі і дай поспех”

***Культавымі новабудоўлямі сёння нікога не здзівіш. Завяршаецца ўзвядзенне царквы паблізу Чысці Маладзечанскага раёна. Адначасова будуюцца каталіцкі касцёл і праваслаўная царква ў самім райцэнтры.***

Аднак падзея, якая адбылася ў гэтым горадзе ў мінулую нядзелю, мае пэўную адметнасць– прайшло ўрачыстае адкрыццё і асвячэнне малітоўнага дома мясцовай царквы Хрысціян Веры Евангельскай “Віфанія”.

Шмат чаго было ў яе братоў і сясцёр больш як за чвэрцьвекавую гісторыю існавання: паўлегальнае становішча, пэўны ўціск, сходы па прыватных дамах. Час і тут прынёс добрыя змяненні.

Тры з паловай гады таму назад на даволі прэстыжным месцы (за што “Віфанія” вельмі ўдзячна былому кіраўніцтву горада ў асобе Генадзя Карпенкі, былому галоўнаму архітэктару Мікалаю Гапону) пачаліся будаўнічыя работы. Практычна ўсе яны выконваліся ў вольны час самімі евангелістамі. Цяжкасці тэхнічнага характару дапамагалі вырашыць некаторыя прадпрыемствы і арганізацыі, дабрачынныя фінансавыя ўзносы рабілі як самі браты і сёстры, так і іх сябры з іншых цэркваў рэспублікі, былі і замежныя ахвяраванні, у прыватнасці са Швецыі, ЗША, Канады...

І сёння арыгінальнай архітэктуры будынак вышынёй (са шпілем) больш за дзвесце метраў стаў сапраўдным упрыгожаннем Вілейскай вуліцы. Уражвае і ўнутраная аддзелка залы: узоры, ляпніна на сценах і столі, асвятленне. У дзень першага служэння былі запоўнены ўсе месцы залы, балкона, людзі стаялі ў праходах і на лесвіцах. Шмат было гасцей з суседніх раёнаў, з Мінска, прыехала шведская дэлегацыя....

Упершыню прысутнічаючы на евангелісцкім багаслужэнні, адзначу, што ёсць тут даволі нязвыклага ў параўнанні, скажам, з каталіцкім ці праваслаўным. Але, думаецца, не гэта асноўнае. Галоўнае ў тым, што колькасць прыхільнікаў царквы ХВЕ расце, і тут вельмі шмат моладзі, што ўслаўляюць Бога. Людзі самі імкнуцца быць лепшымі, па- добраму ўздзейнічаюць на іншых.

*Валянцін ЛІПНІЦКІ*

# Сустракайце: год Арла

***Адыходзіць у мінулае 1995 год і напярэдадні 1996 года, не ўжываючы гараскопа, зробім, згодна са Старажытным Зараастыйскім календаром, прагноз на наступны год.***

21 сакавіка 1996 года СОНЦА уваходзіць у знак АВЕНА, таму, адпаведна з 32- гадовым цыклам, пачынаецца год з сімвалічнай назвай АРОЛ. Год Амерэтата (“Бессмяротнасці”). Арол– птушка, якая звязана з царствам, з Імперыяй. АРОЛ– сімвал імператарскіх рэгалій. Расійская імперыя, да прыкладу, утварылася ў год АРЛА. У адрозненне ад года МЯДЗВЕДЗЯ, шатуна і бадзягі, ламаючага сістэму, АРОЛ, наадварот, сістэму стварае.. Таму наступны год будзе годам будоўлі ўлады, сур’ёзных планаў і праектаў, якія пачнуць ажыццяўляцца.

Год АРЛА– год барацьбы з Храфстрай (сутнасцю, якая належыць свету зла), брудам, у лепшым выпадку - перамогі над ёю, год вылячэння. У гэты год нараджаецца многа ўрачоў.

АРОЛ не любіць выскачак, у ягоны год мае патрэбу не валюнтарысцкі падыход, а ўпарадкаванне, арганізацыя, сістэма, партыя, клан. Хто ідзе супраць усіх, зрываецца.

Характарызуецца АРОЛ адзінотай, гордасцю, арыстакратызмам, нейкай драпежнасцю, здольнасцю кіраваць іншымі.

У год АРЛА імперыя сябе пашырае і усталёўвае.

Антытатэм года АРЛА ўвасабляцца у вобразе МУХІ альбо САРАНЧЫ. Чалавека вобразу саранчы можна адразу пазнаць па тоненькіх ручках і ножках, фасетных вачах, як у мухі, па сінявасці, прыліпчывасці.

Саранча паглынае ўсё на сваёй дарозе, брудная і неахайная.

У горшым выпадку ў гэтым годзе можа распладзіцца ўсякая Храфстра (бруд), страшныя хваробы і эпідэміі. Таму ў гэтым плане трэба асобную ўвагу накіраваць на экалогію небяспечных месц, санітарыю.

Як будзе суадносіцца год АРЛА да рэгіёна: Маладзечна, Вілейкі, Смаргоні, Ашмянаў, Валожына, Мядзела, Астраўца, Мінска?

Маладзечна– 1388 год. Татэм горада Маладзечна– АРОЛ. Тое, што будзе несці год Рэспублікі, як у кропцы вады адлюструецца і ў Маладзечне. Яшчэ раз звяртаю ўвагу на экалогію ў горадзе і раёне.

Вілейка– 1599 год. Татэм Вілейкі– ТУР (БЫК). Цікавы татэм. Год прынясе праясненні, але і год ушанавання, год уключэння наканаваных фактараў. Магчыма патрабуецца апека дзяржавы, таму што антытатэм ТУРА – злосная АСА, якая любіць уджаліць цішком.

Мядзел– 1454 год. Татэм горада ДЭЛЬФІН. Дэльфін увасабляе ў сабе добрую думку. Самы разумны год. Таму для Мядзела форма ўзаемасувязі гадоў будзе накіравана на адыманне нейкіх зямных благ, але дасць развіццё духоўнасці. Антытатэм Дэльфіна– АКУЛА, злосная, якая паглынае ўсё без разбору. Таму АКУЛА ў Мядзелі можа праявіцца ў экалогіі.

Мінск– 1067 год. Татэм горада БЕЛЫ МЯДЗВЕДЗЬ. Мядзведзь перадае свае правы АРЛУ. Таму для Мінска гэта будзе год умацавання ўлады і, на яе аснове, эканомікі нашай краіны, накаплення багацця.

Антытатэм Белага Мядзведзя– Буры Мядзведзь, які паказаў сябе ў гэтым годзе ў Мінску. Але гэта ўжо гісторыя, трэба глядзець уперад і берагчы экалогію горада і раёна, наогул краіны. Гэта вельмі важна.

Адзначыў тыя гарады, якія датаваны ў летапісах. Астатнія патрабуюць астралагічнага даследавання. Так, Валожын, на маю думку, мае татэм ТУР (БЫК), як цэнтр гандлю жывёлы і сельскагаспадарчай сыравіны.

Смаргонь– Мядзведзь, былая “Смаргонская акадэмія”. І гэтак далей. Але патрэбна праверка.

*Іван ШУБЦІК*

# Умова адна– служыць Беларусі

***“Голас Радзімы”– штотыднёвая газета для беларусаў за межамі Бацькаўшчыны. Суайчыннікі з блізкага і далёкага замежжа лічаць яе сваёй газетай. Але сёння яна ўяўляе цікавасць і для шырокага кола інтэлігенцыі, а таксама для ўсіх, каму неабыякава будучыня нашай дзяржавы Рэспублікі Беларусь.***

“Голас Радзімы”– гэта незалежная пазіцыя і дэмакратызм. Мы імкнемся прадаставіць трыбуну кожнаму, але пры адной умове: кожнае слова на старонках нашай газеты павінна служыць нацыянальным інтарэсам Беларусі, яе адраджэнню.

“Голас Радзімы”– гэта шырокі тэматычны дыяпазон: грамадска-палітычныя працэсы ў Беларусі і найвастрэйшыя праблемы культуры, партрэты нашых вялікіх продкаў, “белыя плямы” гісторыі, фальклор, народныя рамёствы, краязнаўства, археалогія і нумізматыка.

Пра многае нашы як замежныя, так і тутэйшыя чытачы ўпершыню даведваюцца са старонак “Голасу Радзімы” - пра забароненых і забытых кампазітараў Куліковіча і Равенскага, вучонага Барыса Кіта і іншых слынных беларусаў, хто аддаў свой талент на алтар сусветнай навукі і культуры.

З 20 кастрычніка пачалася падпіска на першае паўгоддзе 1996 года. Кошт падпіскі на 3 месяцы– 12000 рублёў, на 6 месяцаў– 24000 рублёў.

# Буцы на цвік. Да вясны

***У пяты раз, і ў пятым нацыянальным чэмпіянаце, першую прыступку ў выніковай табліцы занялі футбалісты мінскага “Дынама”.***

Інтрыга, якая ўзнікла пасля перамогі над сталічным грандамі дэбютанта МВКЦ з Мазыра, у заключным туры працягу не атрымала. Усё стала на сваё месца. У мазыран “серабро”, у “Дынама- 93” бронза. Яшчэ адзін дэбютант, мінская “Атака- Аўра” на чацвёртым месцы.

ФК “Маладзечна” у заключнай сустрэчы на сваім полі з магілёўскім “Дняпром” вырваў перамогу (2:1) і аднаасобна заключыў першую пяцёрку каманд.

Маладзечанцам гэты вынік дае шанц у будучым годзе ўключыцца ў розыгрыш Кубка УЕФА- Інтэртота. Тым больш, што гэты горад падаў ужо заяўку на інспектаванне стадыёна, усёй спадарожнай інфраструктуры на прадмет адпаведнасці іх міжнародным стандартам.

Пазначым яшчэ, што з 1996 года нацыянальныя чэмпіянаты вяртаюцца да колішняй бэсэсэраўскай сістэмы розыгрышу "вясна- восень", што больш падыходзіць для нашых кліматычных умоў.

*Валянцін ЛІПНІЦКІ*

